*З родным словам кроў не стыне...*
*Алесь Бабаед*

# КАРДОН

**№17 Снежань 2000**

Інфармацыйна-публіцыстычны бюлетэнь Бешанковіцкай суполкі "Таварыства беларускай мовы"

## ПЕРШЫ СНЕГ

Зноў вярнулася восень,
Хоць па вуліцы снежань блукае,
І высокага зорнага неба
Няма па начах.
Абляцела лістота даўно
І ў нейкім адчаі
Апусцелыя дрэвы
Зацята, упарта маўчаць.

І на сэрцы туга:
Сэрцу першага снегу імгненні,
Як вясёлае свята дзяцінства.
Нібы ўпершыню,
Калі падае снег,
Адзначае душа нараджэнне,
Вырываецца з путаў зямных
І імкне ў вышыню.

Мне не спіцца ўначы.
Я ўсё болей люблю адзіноту.
І свайго снегападу імгненні
Праспаць не магу.
Мне так важна адчуць
Той сняжынкі малюсенькай дотык –
Пацалунак адданы
Гарачых, даверлівых губ.

Ад яго станаўлюся дужэй,
Быццам казачны волат,
Нарадзіўся, нібыта,
На свет гэты грэшны ізноў
І, здаецца, ніколі
Не ўпасці з каня мне дадолу,
І жыцця мне адмерана
Добрая сотня гадоў.

І сябрам сваім блізкім
Я з радасці гэтай гукаю:
"Да мяне вы прыходзьце,
Люблю і чакаю я вас!"
З неба падае снег,
Нараджэнне душа сустракае,
Уваскрасаю з ім я,
Настае светлых дзён маіх час.

*Г. Станкевіч*

# Віншуем з Новым годам!



*Выбар – 2001*

## ХТО ПАВЯДЗЕ БЕЛАРУСЬ У ТРЭЦЯЕ ТЫСЯЧАГОДДЗЕ?

У новы век Беларусь павядзе новы прэзідэнт. Хто ім стане?

Улады з раніцы да вечара ўбіваюць у галовы людзей думку, што акрамя Лукашэнкі лідэраў няма. Толькі пра яго і чуваць. Апазіцыйных яму палітыкаў завочна паліваюць брудам, а да эфіру і блізка не падпускаюць. Назойліва навязваецца адзіная "правільная" думка, а хто з ёй не згодзен – вораг.

А жыццё працягвае пагаршацца. Народ пачынае разумець, што замест абяцанай "светлай будучыні" апынуўся ў змрочным мінулым. Не дапамагаюць больш абалваньванне і хлуслівыя паказчыкі росту. Эканоміка на грані абвалу. Заводы і фабрыкі не зводзяць канцы з канцамі, у бядотным стане калгасы і саўгасы, недаядаюць пенсіянеры і студэнты. Час патрабуе зрабіць выбар. І ад гэтага выбару будзе залежыць не толькі наш лёс, але і лёс дзяцей і ўнукаў, лёс Беларусі.

Прадстаўнікі незалежнага беларускага грамадства шукаюць кандыдата, які здолее вывесці краіну з багны крызісу. Разумных, таленавітых патрыётаў шмат. Трэба сярод іх знайсці і прадставіць такога, за кім пойдзе зняверaны беларускі народ. Адзіны кандыдат ад дэмсілаў яшчэ не названы, але ў спіску магчымых прэтэндэнтаў шмат дастойных людзей. Пра двух з іх мы сёння раскажам.

### Сямён Домаш

Нарадзіўся ў 1950 годзе. Мае тэхнічную і вышэйшую эканамічную адукацыю. Быў дырэктарам Гродзенскага аўтакамбіната №1, узначальваў Лідскі і Гродзенскі гарвыканкамы, Гродзенскі аблвыканкам. Дэпутат Вярхоўнага Савета. На выгляд – сур'ёзны, з цьвёрдым паглядам і ветлівай усмешкай. Жанаты, мае двух сыноў. Кандыдат у майстры спорту па боксу. Ведае, што рабіць і не выстаўляецца сваімі ведамі. Быў прыхільнікам імпічменту ў 1996 годзе. Пасля разгону Вярхоўнага Савету захаваў прыхільнасць Канстытуцыі 1994 года.

**(працяг на стар.2)**

# ХТО ПАВЯДЗЕ БЕЛАРУСЬ У ТРЭЦЯЕ ТЫСЯЧАГОДДЗЕ ?

(пачатак на стар.1)

Лідэр Гродзенскай апазіцыі. Паслядоўны, прынцыповы і смелы палітык з добрымі арганізацыйнымі здольнасцямі.

Лічыць , што для таго, каб беларуская працавітасць і гаспадарлівасць далі плён, дзяржава павінна стварыць умовы для праяўлення ініцыятывы. У першую чаргу для кіраўнікоў прадпрыемстваў і спецыялістаў. Каб палепшыць сітуацыю ў сельскай гаспадарцы, трэба даць кіраўнікам калгасаў і саўгасаў свабоду дзеянняў. Самая вялікая памылка сённяшняй улады – у яе



■ Сямен Домаш

дыктаце. Трэба, каб вяскоўцы свабодна рэалізоўвалі тое, што вырасцілі.

Выступае за неадкладныя рэформы ў сельскай гаспадарцы., каб кожны працаўнік быў асабіста зацікаўлены ў выніках сваёй працы.

Беларусы на постсавецкай прасторы, мабыць, маюць найменш смеласці. Не хапае галоўнага - веры ў свае дзеянні. Улада ціснe на псіхіку людзей, стараецца падпарадкаваць іх, паставіць у залежнасць і кантраляваць. Людзі запалоханыя. Страх прыгнятае чалавека. Будучая дэмакратычная дзяржава павінна выкараніць гэты страх, каб людзі не баяліся ні адзін аднаго, ні ўлады.

Грамадства зараз падзелена. У людзей няма супольнай мэты. Ёсць падзел на чэсных і нячэсных, на тых, хто "за" і хто "супраць". Каб пераадолець гэты раскол, трэба змяніць стаўленне да апазіцыі. Ніводная ўлада не можа эфектыўна існаваць, калі няма тых, хто крытыкуе, паказвае на недахопы. Людзі з іншымі поглядамі патрэбны, яны падштурхоўваюць да пошуку.

Беларусь знаходзіцца на лініі падзелу паміж Расіяй і Захадам. Нам трэба супрацоўнічаць і сябраваць як з Расіяй, так і з еўрапейскай супольнасцю. На Захадзе значна вышэйшы тэхнічны і сацыяльны ўзровень. Расія ж можа дапамагчы энерганосьбітамі. Але мы павінны застацца незалежнай нейтральнай краінай, не ўдзельнічаць у ваенным супрацьстаянні. Не трэба псаваць адносіны ні з кім, тады і да нас будуць ставіцца адпаведна: паважаць і нашу краіну, і наш суверэнітэт, і нас - як народ.

## Аляксандр Дабравольскі



■ Аляксандр Дабравольскі

Нарадзіўся ў 1958 годзе. Пасля ўніверсітэту працаваў інжынерам-канструктарам па электроніцы. Быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР і Беларусі. Атрымаў дадаткова юрыдычную адукацыю. Перспектыўны палітык еўрапейскага тыпу. Камунікабельны, прывабны, высокі, з жывой усмешкай на твары. Ніхто не бачыў яго злым і раз'юшаным. Узорны муж і бацька дваіх дзяцей. Захапленне – музыка, гітара. Вось некаторыя вытрымкі з ягоных адказаў на пытанні карэспандэнта газеты "Наша ніва".

Новы прэзідэнт апынецца перад задачай кансалідацыі грамадства, расколатага цяперашнім кіраўніцтвам. Калі людзі зробяць выбар на карысць таго чалавека, які здольны кіраваць краінай без шалёнага жадання шукаць ворагаў, то і ўсе астатнія праблемы вырашаць будзе лягчэй.

Вяртанне ў мінулае ні да чаго добрага не прывяло. Людзі расчараваліся і хочуць пераменаў. Асноўным у праграме будучага прэзідэнта павінна стаць вырашэнне эканамічных праблем, якія зараз так хвалююць: высокія цэны, нізкія заробкі, беспрацоўе. На другое месца я б паставіў праблему вяртання самапавагі беларускаму народу. З Беларусі зараз насьміхаюцца ва ўсім свеце, Беларусь знаходзіцца ў міжнароднай ізаляцыі, ніхто яе ўсур'ёз не ўспрымае. Людзі адчулі, што іх не паважаюць – ні ўлада, ні міжнародная супольнасць. **Эфектыўная эканоміка і вяртанне самапавагі** – гэта галоўнае. Зразумела, патрэбна і сацыяльная дапамога, і лепшая медыцына і адукацыя, і экалогія, і Чарнобыльскія пытанні трэба вырашаць. Ну і нарэшце – трэба захаваць суверэнітэт краіны.

***У артыкуле выкарыстаны матэрыялы газеты "Наша ніва"***

# “КОЖНЫ ЧАЛАВЕК МАЕ ПРАВА...”



■ **Праваабаронцы на вуліцах Мінска 10 снежня**

10 снежня – Дзень абароны правоў чалавека. Менавіта ў гэты дзень у1948 годзе Генеральная Асамблея Арганізацыі Аб'яднаных Нацый зацвердзіла і абвясціла Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека і звярнулася з заклікам да ўсіх дзяржаў зрабіць усё магчымае для яе выканання. Беларускія праваабаронцы правялі шэраг акцый з нагоды 52-й гадавіны у 15 буйных гарадах. Найбольш маляўнічым і прадуманым было гулянне па праспекце Скарыны ў Мінску. Удзельнікі святкавання выйшлі апранутымі у белыя накідкі з партрэтамі зніклых у Беларусі людзей: Віктара Ганчара, Юрыя Захаранкі, Анатоля Красоўскага, Дзмітрыя Завадскага і надпісамі "Дзе ён?". Прахожым было раздадзена некалькі тысяч маленькіх прыгожа афармленых кніжачак з тэкстам Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека ( хто хоча атрымаць такую – замаўляйце па тэлефоне 2-26-93 ). Праваабаронцы ў белым былі вельмі прыкметнымі на шэрай снежаньскай вуліцы, усё праходзіла мірна і прыстойна, у шматлікіх прадстаўнікоў аховы парадку не было ніякіх падстаў для затрыманняў. Але і ў гэты дзень без затрыманняў не абыйшлося, правы чалавека на Беларусі вельмі далёка ад прадэклараваных.

Прапануем прааналізаваць асобныя артыкулы Усеагульнай дэкларацыі, каб зразумець, чаму нашу краіну так часта абвінавачваюць у парушэнні правоў чалавека.

**Артыкул 7. Усе людзі роўныя перад законам і маюць права на роўную абарону.** – Вы ніколі не сутыкаліся з адваротным?

**Артыкул 10. ...Кожны чалавек мае права на тое, каб яго справа была разгледжана з захаваннем усіх патрабаванняў справядлівасці незалежным і непрадузятым судом.** – Падыміце рукі, хто сцвярджае, што суды ў нас незалежныя? Рук не бачу, але спадзяюся, што ёсць усё ж людзі, якія вераць у справядлівасць і незалежнасць суда.

**Артыкул 11. Кожны чалавек, які абвінавачваецца ў злачынстве, мае права лічыцца невінаватым да таго часу, пакуль яго вінаватасць не ўстаноўлена законным парадкам шляхам публічнага судовага разбору.** – Вы не ведаеце выпадкі, калі некага называлі злачынцам, а потым высвятлялася, што ён не вінаваты? Не памятаеце, як абвінавачвалі Ляонава ў дачыненнях да забойства Мікалуцкага, як адседзелі невінаватыя за маньяка Міхасевіча?

**Артыкул 19. Кожны чалавек мае права на свабоду перакананняў і на свабоднае выражэнне іх, гэта права ўключае свабоду бесперашкодна прытрымлівацца сваіх перакананняў, шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю і ідэі любымі сродкамі.** – Адзін чалавек у нашай краіне сапраўды мае такое права, а тыя, хто з ім не згодзен маюць права атрымліваць за свае перакананні дубінкамі па спіне, быць аштрафаванымі, звольненымі і зняважанымі. Вы не ведаеце пра выпадак, калі ў Мінску быў затрыманы глуханямы інвалід, якога абвінавацілі ў тым, што ён "выкрыкваў антыпрэзідэнцкія лозунгі"?

**Артыкул 20. Кожны чалавек мае права на свабоду мірных сходаў і асацыяцый.** – Ці можна аднесці да выканання гэтага артыкула бясконцыя забароны акцый пратэсту, разгон і пераслед іх удзельнікаў?

**Артыкул 23. Кожны чалавек мае права на працу... Кожны, хто працуе, мае права на справядлівую ўзнагароду, якая забяспечвае вартае чалавека існаванне для яго самога і яго сям'і.** – Ці так гэта? Ці можа "варта існаваць" чалавек, які атрымлівае заробак меншы за пражытачны мінімум?

**Артыкул 25. Кожны чалавек мае права на такі жыццёвы ўзровень, уключаючы харч, адзенне, жыллё, медыцынскі догляд і неабходнае сацыяльнае абслугоўванне, які неабходны для падтрымання здароўя і дабрабыту яго самога і яго сям'і.** – Ці ўсе з нас маюць такі уровень?

Калі, прачытаўшы прыведзеныя артыкулы, вы становіча адказалі на пастаўленыя пытанні – вы жывяце ў дэмакратычнай краіне, дзе выконваюцца правы чалавека, або вы проста іншапланецянін.

*Я. Мірон*

**УСЕАГУЛЬНАЯ ДЭКЛАРАЦЫЯ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА**

# РУСАКІ

Так называюць сябе ў Германіі тыя, каго ў былым Савецкім Саюзе называлі немцамі. Так і не здолелі ні Саюз, ні Расія стварыць ім маламальскі спрыяльныя ўмовы для жыцця на другой Радзіме. Калі напачатку 90-х гадоў расійскія немцы пачалі патрабаваць выдзеліць ім тэрыторыю для стварэння нямецкай аўтаномнай рэспублікі, ім прапанавалі былы ядзерны палігон. І яны вымушаны былі пераехаць на сваю гістарычную Радзіму - у Германію. Зараз тут пражывае каля двух мільёнаў былых грамадзян Савецкага Саюза.

*Гістарычная даведка:* Немцы ў Расійскай імперыі з'явіліся ў XVIII стагоддзі, калі імператрыца Кацярына II, немка па нацыянальнасці, прапанавала сваім суайчыннікам засяліць вольныя землі, якія рускія войскі толькі што заваявалі ў Паволжжы і на Украіне. Умовы перасялення былі спрыяльныя: перасяленцы атрымлівалі паслабленне ад налогаў, не мелі перашкод у веравызначэнні і выкарыстанні роднай мовы.

Цяжка расказаць, што давялося перажыць перасяленцам потым, асабліва ў XX стагоддзі пры "бацьку ўсіх народаў" – крывавым Сталіне. Частка іх была выселена ў Сібір. Многіх расстралялі без суда і следства. Але мужны народ трымаўся. Немцы на тэрыторыі СССР паказвалі прыклад дастойнага жыцця нават у такіх умовах. Нягледзячы на ўсе цяжкасці і перашкоды, іхнія



**Чорныя бэлькі, белыя муры, шэрыя шыферныя дахі - гэта фахверкавы стыль, тыповы для Вестфаліі.**

пасяленні былі ўзорамі высокай культуры, якія, на жаль, не знайшлі пераймання.

Яны захавалі сваю мову і звычкі, хоць рускую таксама ведалі і выкарыстоўвалі. І вось зараз гэты ўнікальны пласт руска-нямецкай культуры страчаны назаўсёды. Ен абагаціў і без таго не бедную культуру Германіі.

Нямецкае кіраўніцтва, якое знайшло сродкі для ўладкавання гэткай масы людзей, мела рацыю. У адрозненне ад Расіі, у Германіі не было магчымасці пасяліць усіх кампактна. Перасяленцы асіміляваліся ў нямецкую эканоміку, увайшлі ў нямецкі лад жыцця, хаця для немцаў яны ўсё яшчэ застаюцца "рускімі". Сябе ж яны называюць "русакамі". Большасць іхніх дзетак ужо амаль не ведаюць рускай мовы, навокал усе гавораць толькі панямецку. Зрэдку яны чуюць гэту мову, але яна ім не патрэбна. І гэта як помста той краіне, таму вялікаму народу, які не захацеў ці не змог прыняць іх у сваю многанацыянальную сям'ю.

Настальгію па былым савецкім жыцці адчуваюць хіба толькі бабулькі-пенсіянеркі, якім не хапае сваёй кароўкі, парасятак і знаёмых-суседзяў. Мужчыны ж іхнія з раніцы да вечара бестурботна плешчуць у карты ў дварах. Пенсіі ў іх не вельмі вялікія, але на жыццё хапае. Іхнія кватэры, як і кватэры карэнных немцаў - недасягальная мара для большасці з нас.

Маладыя ж уладкоўваюцца на працу па здольнасцях. Амаль усе ездзяць на новых машынах, большасць з якіх куплена ў крэдыт. Многія ўжо пабудавалі свае ўласныя дамы. І ўсе яны вераць у будучыню, упэўнены ў заўтрашнім дні. Яны не зганьбяць сваёй краіны. У іх ёсць адчуванне высокай чалавечай годнасці, якое не вытравіла нават савецкая рэчаіснасць.

Мне не хацелася б тут праводзіць гістарычных аналогій з нашай краінай і народам. Беларусь мае свой шматпакутны шлях да незалежнасці і самавызначэння ў свеце. І ён яшчэ не скончаны. У нас няма іншай Бацькаўшчыны. Ніхто і нідзе нас не чакае. Дома, на сваёй роднай зямлі мы павінны будаваць лепшае жыццё для сябе і сваіх дзяцей, не цураючыся сваёй гісторыі, бацькоўскіх традыцый, сваёй мовы і культуры.

***Георгій Станкевіч***

# ВЫМІРАЕМ !

Насельніцтва Беларусі пачынаючы з 1994 года змяншаецца. Гэта адбываецца ў выніку натуральнага спаду, памірае людзей больш, чым нараджаецца. Штогод мы страчваем каля 40 тысяч жыхароў, усяго за апошнія шэсць гадоў колькасць насельніцтва зменшылася больш чым на 300 000 чалавек.

Такім чынам, у 2001 год Беларусь уступае з насельніцтвам менш 10 мільёнаў чалавек. Вось так, без войнаў і эпідэмій мы паціху выміраем. Выміраем ад хвароб і п'янства, ад забойстваў і самазабойстваў, ад дрэннага харчавання і няўпэўненасці ў заўтрашнім дні. Але галоўная прычына вымірання нацыі – яе бездухоўнасць. Гэты несуцяшальны вывад зрабілі навукоўцы. Выміраюць не толькі беларусы, гэты працэс ахапіў і Расію, і Украіну. Па тых жа прычынах.

Не трэба суцяшацца агульнапрынятымі сцвярджэннямі, што мы добры, працавіты і талерантны народ. Разумныя і таленавітыя народы не выміраюць. Выміраюць бездухоўныя нацыі. Можна перажыць нястачу, голад і холад, як перажыло ўсё гэта пасляваеннае пакаленне. Можна справіцца з разрухай і беднасцю. Беднасць духоўную пераадолець намнога цяжэй.

***В. Гракун***

# НАШЫ АСВЕТНІКІ

Гэтай восенню ва ўнутраным дворыку Белдзяржуніверсітэта быў адкрыты помнік Васілю Цяпінскаму і Сымону Буднаму – гуманістам і асветнікам Беларусі. Яны жылі ў адзін час, прытрымліваліся падобных поглядаў і зрабілі так шмат, што век той цяпер называюць залатым векам беларускай культуры.



■ Помнік В.Цяпінскаму і С.Будному.

***Сымон Будны*** нарадзіўся прыкладна ў 1630 годзе. Атрымаў выдатную адукацыю - скончыў Кракаўскі і Базэльскі ўніверсітэты. Беларусы тады мелі магчымасць вучыцца ў еўрапейскіх навучальных установах. Працаваў настаўнікам у Вільні, пратэстанцкім прапаведнікам у Клецку. Потым з дапамогай багатых мецэнатаў стварыў дзве друкарні. Друкарня ў Нясвіжы была фактычна першай на Беларусі пасля Скарынаўскай. Першай кнігай, якую выдаў Будны быў "Катэхізіс" на беларускай мове. Было выдадзена і шмат іншых кніг рэлігійнага зместу ў якіх Будны выкладаў свае філасофскія, палітычныя і педагагічныя ідэі і погляды.

Бачачы пагрозу паланізацыі, Сымон Будны рашуча выступіў на абарону беларускай мовы: "Абы вашы княжацкія міласці любілі мову таго народу, якім бацькі вашыя спрадвеку слаўна кіруюць", - пісаў ён у прадмове да "Катэхізісу".

Будны стаў адным з дзеячаў беларускай Рэфармацыі, шырока разгарнуў літаратурна-публіцыстычную і выдавецкую дзейнасць. Ён выступаў за творчую свабоду асобы супраць рэлігійнага фанатызму, пісаў пра неабходнасць засваення культуры іншых народаў, выкрываў праваслаўных дзеячоў, якія адмаўляліся ад навукі і асветы. Ён перакладае з французкай мовы і друкуе кнігу пра падзеі Варфаламееўскай ночы, як папярэджанне грамадству Вялікага Княства Літоўскага аб жудасных выніках рэлігійнай варожасці. Вядома, што Будны пісаў таксама вершы.

***Васіль Цяпінскі*** нарадзіўся каля 1540 года на Полаччыне. Галоўнай справай яго жыцця стала адукацыя беларускага народа. Дзеля гэтага ён пераклаў на беларускую мову Евангелле і на ўласныя грошы ў сваім маёнтку Цяпіна (Чашніцкі раён) заснаваў друкарню. Сродкі яго былі абмежаваныя, усіх задумак ён не здзейсніў, але "Евангельле" надрукаваў на царкоўнаславянскай і беларускай мовах са шматлікімі тлумачэннямі, прыгожа аздобленае. У прадмове да "Евангельля" асветнік ўсхвалявана піша пра неабходнасць культурнага ўздыму і згуртаванасці беларусаў перад пагрозай паланізацыі. Ён адстойвае права на адукацыю на роднай мове, заклікае свецкіх і духоўных валадароў захоўваць традыцыі і звычаі продкаў. З абурэннем піша пра неадукаванасць праваслаўнага духавенства, якое адмаўлялася ад роднай мовы. Цяпінскі, як і Будны, быў пратэстантам, але як сапраўдны гуманіст ён узняўся да разумення таго, што рэлігійныя погляды - прыватная справа кожнага чалавека, які ніколі не павінен забываць пра нацыянальныя інтарэсы.

***В. Гракун***

# ЧАМУ МЫ ТАКІЯ БЕДНЫЯ

"Чаму ты такі бедны?" - пытаюць у беларуса. – Таму што дурны."А чаму ты дурны?" – Таму што бедны. Гэта са старога анекдота. А сапраўды, чаму мы такія бедныя? Давайце прааналізуем разам некалькі лічбаў з бюджэту на 2001 год. Гэта нашы з вамі грошы. Дзяржава ўзяла іх з налогаў і адлічэнняў прадпрыемстваў, у якіх мы працуем. І вось як плануе распарадзіцца імі.

На нацыянальную абарону (на армію) прадугледжана 152 213 855 000 рублёў, на праваабарончую дзейнасць і ахову ( на міліцыю) – 280 590 030 000 рублёў, на судовую ўладу яшчэ 13 734 417 000 руб. Адкінем нулі, каб прасцей было запомніць, атрымаецца на сілавыя структуры разам **446** мільярдаў. А на ўсю прамысловасць, энергетыку, транспарт і будаўніцтва – толькі **35** мільярдаў. Ну і адкуль жа таму багаццю ўзяцца, калі на танкі і гумавыя дубінкі выдаткоўваецца ў 12 разоў больш, чым на прамысловую вытворчасць, будаўніцтва кватэр і дарог.

На іншыя расходы наогул непараўнальныя сумы атрымліваюцца: жыллёва-камунальнай наспадарцы - 900 мільёнаў рублёў, Нацыянальнай акадэміі навук на ўсе распрацоўкі і навуковыя даследванні толькі 3, 5 мільярды, на малы бізнэс і прадпрымальніцтва 972 мільёны. Затое на Упраўленне справамі прэзідэнта - 4,4 мільярды рублёў, у бюджэт Саюза з Расіяй – 38 мільярдаў.

Калі б крыху зменшыць выдаткі на сілавыя структуры, дык і ў кватэрах цёпла б было і аўтобусы б хадзілі новыя, а не смярдзючыя душагубкі, як зараз. Але дэпутатам і правіцелям відней, яны ж гэтыя лічбы распрацавалі і зацьвердзілі. А жыць нам.

***Гэта было...***

Сёння мы працягваем друкаваць гісторыі, якія ўзгадала **Зоя Паўлаўна Шыпуля** з вёскі Дукоўшчына.

## ХТО БУДЗЕ СТАРШЫНЁЙ

Раней старшынь калгасаў выбіралі з ліку саміх калгаснікаў. Грамацеі ўсе былі прыкладна аднолькавыя, кіраваць таксама ніхто нідзе не вучыўся. А хацелася ж , каб старшыня быў самы дастойны, каб і людзям добра было, і калгасу, і начальству. А дзе такога ўзяць, каб па ўсіх паказчыках падыходзіў? Вось і спрачаліся часам па некалькі дзён, каму кіраваць. Аднойчы ў Пяцігарску тры дні доўжыўся калгасны сход, а старшыню ўсё не маглі абраць, у кожнага нейкая загана знаходзілася. На трэці дзень вяртаецца Ніл да сваёй Ніліхі са сходу злосны, разнерваваны. “Ну, што вы там вырашылі, хто будзе старшынёй?” – пытаецца жонка. “Хто нагу за галаву зможа закласці, той і будзе”, - злосна пажартаваў Ніл, бо ўжо па якіх толькі крытэрыях не ацэньвалі кандыдатаў. Жарт той меў нечаканы працяг. Раніцай Ніл пачуў жончын крык, прыбег у хату, а тая качаецца па падлозе з закладзенымі за галаву абеімі нагамі і назад іх разняць не можа, як сказалі б ёгі “у позе лотаса заклініла”. Не меціла бедная Ніліха ў старшыні, жаночая цікавасць падвяла, захацелася праверыць, “А я ці змагу нагу за галаву закласці”. Змагла. Нават дзве нагі за галаву заклала. А з вас ніхто паспрабаваць не хоча?

## КАМУ ПЕРШАМУ МЫЦЦА?

Баня ў Ганчарове, як і ў большасці малых вёсак пасля вайны, была адна. Тапілі яе па чарзе. А мыцца ішлі, як каму час выпадаў. У адной жанчыны вельмі балела спіна, мабыць радыкуліт прыхапіў. Ёй параілі нацерці спіну пякучай маззю і папарыць у бані. Тая так і зрабіла. Пайшла ў першы пар, намазала спіну пякучай маззю, легла на лаўку і ляжала, колькі магла сцярпець. Потым абмыла спіну і пайшла дамоў. Лаўку ж пашараваць не здагадалася. А пасля пайшоў мыцца гаспадар. Сеў на лаўку, пачаў мыцца. Сведкай дальнейшых падзеяў стала суседка, якая ў гэты час прыйшла браць ваду са студні каля лазні. Толькі яна набрала вады, як з бані выскачыў голы мужчына і кінуўся да яе. Выпусціўшы вёдры з крыкам “Ратуйце!” тая пабегла па вуліцы. А мужчына, якому ўсяго толькі і трэба было набраць халоднай вады, бо не было цярпення і ратавання ад пякучкі, не вытрываў, сеў проста ў снег. Да ягонай жонкі прыбеглі суседкі: “Анісся, твой Васіль адурнеў, сядзіць голы ў снезе і крычыць”. Пасля таго выпадку жанчынам хадзіць першымі ў баню было строга забаронена.

## ГАННІН МОХ

У лесе каля вёскі Ганчарова ёсць два азярцы. Цвёрдых берагоў яны не маюць, відаць, як возера паступова ператвараецца ў балота: чыстая вада зарастае імхом, потым асакой, а за ёй на ўтварыўшыхся купінах селяцца баган, дурнічнік і чэзлыя балотныя сасонкі. Бліжэй да вады сярод зыбкіх купін часам трапляецца акенца белага моху, якое тоіць небяспеку для ступіўшага туды чалавека. Мясцовыя жыхары і бывалыя зборшчыкі журавін ведаюць, што тут можна трапіць ў чорную багну, і абходзяць гіблыя месцы. Адно з такіх месцаў мае назву Ганнін мох.

Даўно жыла ў Ганчарове маладая дзяўчына Ганна. Моладзі тады было шмат ва ўсіх навакольных вёсках. Збіраліся на вечарынкі то ў адной вёсцы, то ў другой. З Ганчарова хадзілі нават у Быстры і Галыні, некалькі лясных кіламетраў для маладых не перашкода, наадварот, дарога была не менш прывабнай, чым сама вечарынка. На танцы ішлі ўсёй кампаніяй, весела і шпарка. Вярталіся ж больш парамі, запавольваючы хаду, каб болей пабыць разам. Закаханых не палохалі ні змрочныя яліны навокал, ні цемра. Вярталася так аднойчы і Ганна са сваім Васілём. Запазніліся, пара дамоў, захацелі скараціць шлях, зрэзаць напрамкі край балота. І, на бяду, трапілі якраз на бяздоннае “чортава вока”. Першай правалілася ў твань Ганна. Васіль скочыў, каб дапамагчы ёй. Выбрацца не здолелі ні ён, ні яна. З таго часу балота тое і пачалі называць “Ганнін мох”. Захочаце знайсці яго – будзьце асцярожныя, не забывайцеся пра няшчасную Ганну і яе каханка.

***В. Гракун***



***Вось мы і ўз'ядналіся!***

## Анекдоты

***

-Чаму жыццё на Беларусі такое дарагое?
- Яно перастала быць прадметам першай неабходнасці.

***

Апазіцыянер раздае лістоўкі. Людзі бяруць, адыходзяць і заўважаюць, што ў іх руках пустыя лісты: - Тут жа нічога не напісана!
- А навошта пісаць? І так усё зразумела.

"Кардон". Бюлетэнь Бешанковіцкай суполкі “Таварыства Беларускай мовы ”. № 17,снежань 2000.
Рэдкалегія: Валянціна Гракун, Георгій Станкевіч ,Уладзімір Асокін. Кампьютэрны дызайн і вёрстка:А.Каліноўскі .
Тыраж 299. Выдадзена пры падтрымцы Віцебскага філіяла “Фонда імя Льва Сапегі”. Распаўсюджваецца бясплатна.
Тэл. 2 – 26 – 93, 211 350, Бешанковічы, Маладзёжная, 9 – 21.